Алесь Петрашкевіч

# Час усё адкрые...

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Радзівіл.** Я стаміў цябе, слаўны кароль. Але ж пацярпі. Дай адвесці душу, бо збалелася да знямогі ад няшчасцяў майго краю...

23 жніўня зноў сустрэўся з загонамі Трубяцкога, які знайшоў брод на той самай Друці і пагражаў акружэннем астатку майго войска. Адышоў да цяпер ужо знакамітага сяла Шапялевічы. Прадбачыў немінучае паражэнне, дык хоць абоз са зброяй, рыштункам і гарматамі выратаваць хацеў. Маскавіты пайшлі трыма калонамі. І пакуль ліцьвіны мае змагаліся з першай, дзве другія абышлі нас з флангаў. Перад пагрозай акружэння жаўнеры кінуліся ўцякаць. Я яшчэ спадзяваўся выратаваць становішча і рынуўся ў бой ды нарваўся на немінучую смерць. Адзін раз паручнік нямецкай пяхоты Графенберг засланіў мяне ад кулі і рагаціны, а другі раз куля зваліла пада мною каня, і я параніў нагу. Маскалі ўбачылі гэта. З паловы сотні маёй надворнай харугвы засталося толькі пяць чалавек. І яны да апошняга баранілі свайго важара. У гэты момант падаспеў з аддзелам пяхоты мужны Юшкевіч і адкінуў маскавітаў. Але паратунку ўжо не было. Вораг дамогся сваёй перамогі. Невялікія рэшткі майго апошняга войска ратаваліся ўцёкамі. Уцякаў і я. Прабіраўся па балотах, узброены толькі гэтай шабляй, што кранула Гансеўскага. Тысяча, а мо і болей маіх вояў загінула ў тым баі. Да Барысава і той Бярэзіны вывеў мяне мясцовы селянін.

**Ян Казімір.** І як скора чакаць цара на Свіслачы ці Нёмане?

**Радзівіл.** Цар абламаў рогі, упёрся ў Бярэзіну, а цяпер і зусім з'ехаў у Маскву і адвёў частку войска, не завяршыўшы планаваны паход.

**Ян Казімір.** І што будзем рабіць?

**Радзівіл.** Што будзе рабіць каралеўская вялікасць, не ведаю, а я збіраю новае войска ў Смілавічах. Рассылаю панам граматы, каб сялян і мяшчан-выбранцаў навучалі ратнай справе ды слалі да мяне. Скажу шчыра, у шляхту веру мала. Чакаю дапамогі ад Рэчы Паспалітай, калі яна сапраўды не хоча вясною бачыць у Варшаве і Кракаве "цішайшага" Аляксея Міхайлавіча.

**Ян Казімір** *(задуменна).* Як трагічна усё складваецца...

**Радзівіл.** Яшчэ не ўсё згублена. У глыбокім тыле захопнікаў яшчэ бароняцца цвержы Віцебска, старога Быхава і зноў адваяваная Друя. Супраць варожых станаў падымаюцца сяляне, якія я некалі так жорстка караў за бунты. Цяпер паеду менавіта да іх... вініцца і падымаць, каб калашмацілі ворага, дзе толькі можна — з лесу, з яру, засады ці начным налётам, як гэта умеюць рабіць мужыкі-беларусцы, якіх маскалі шышамі клічуць і баяцца, як сваёй смерці.

**Тышкевіч.** Будзем спадзявацца, што Бог прымірыць гетмана вялікага з гетманам польным на карысць агульнай святой справы, а яснавяльможнага караля і яго рыцара Януша Радзівіла я дабраслаўляю на вычын у імя агульнае Айчыны нашае Рэчы Паспалітай двух народаў. Амэн! *(Дае пацалаваць крыж каралю і вялікаму гетману).*

*Заслона.*

**Дзея другая**

**VIII**

*Царская палата. Аляксей Міхайлавіч не ў гуморы выкрочвае па палаце. Адчыняюцца дзверы, уваходзіць патрыярх Нікан, накіроўваецца да цара.*

**Нікан.** Мір дому твайму, вялікі гасудар! *(Працягвае руку для пацалунка).*

*Аляксей Міхайлавіч "не заўважае" рукі патрыярха, ўхіляецца ад лікавання, ідзе да трона, у адну руку бярэ скіпетр, у другую — дзяржаву. Займае сваё царскае мейсца. Нікан губляецца.*

**Нікан.** З вяртаннем... З вялікай перамогай, слаўны цар усяе Русі!..

**Аляксей Міхайлавіч.** З якой перамогай?.. *(Выкарыстаўшы паўзу разгубленасці Нікана.)* Даўно не бачыліся, патрыярх. Хачу пагаварыць з табою "па душах".

**Нікан** *(ачомаўшыся).* А чаму раптам толькі патрыярх? І на вітанне майго святейшаства вялікі гасудар не адказаў, і ад лікавання ўхіліўся? Чым жа я заслужыў такую непавагу перад вялікім гасударом, пакуль у яго адсутнасць дзяржаву на сваіх плячах трымаў і паству ае вёў?..

**Аляксей Міхайлавіч.** Вялікі гасудар Аляксей Міхайлавіч пасля роздуму і доўгага назірання прыйшоў да высновы, што патрыярх з царскімі абавязкамі не

## Трагедыя ў дзвюх дзеях

ўправіўся, многае наблытаў, уладаю злоўжываў, а таму ад гэтага часу будзе ў царстве адзін вялікі гасудар, а ўсе астатнія — набліжанымі яго па волі яго і, вядома ж, слугі верныя.

**Нікан.** Патрыярх Нікан — слуга Госпаду Богу.

**Аляксей Міхайлавіч.** Перад Богам, як я разумею, усе роўныя, у тым ліку і мае прыбліжаныя, якія на слугу божага патрыярха Нікана скардзяцца вялікаму гасудару. І гаворка будзе доўгай і непрыемнай не толькі мне, але і табе.

**Нікан.** Я ашаломлены...

**Аляксей Міхайлавіч.** А я незадаволены!.. Табой, патрыярх, незадаволены. Мне стала вядома, што ў маю адсутнасць чальцы камісіі баярскай думы, з якой ты не лічыўся і якую ігнараваў, а таксама суддзі прыказныя выкліраліся ў патрыяршы палац і там гадзінамі чакалі прыёму. У час як прыёмаў патрыярх Нікан вёў сябе пагардліва, бы вялікі гасудар, а гэта значыць, як цар і павяліцель, у тым ліку і ў адносінах да самых радавітых баяраў, на якіх царства трымаецца. Адзін з іх напісаў мне, што міністры цара і яго набліжаныя сядзяць доўгі час каля вонкавых дзвярэй, пакуль патрыярх Нікан, што ўявіў сябе царом, не дазволіць ім увайсці; і ўваходзяць яны з надзвычайным страхам, пры гэтым да самага канца сваёй справы стаяць на нагах, як ты зараз перад царом сапраўдным, а калі нарэшце выходзяць, патрыярх прадаўжае сядзець. Яны не толькі вымушаны былі пакорліва цярпець, але дзеля сваёй бяспекі і рабалепства ваць *(з іроніяй)* перад вашым святейшаствам, Нікан!

**Нікан** *(крыху перапалохана, устрывожана).* Няхай мне даруе Бог, калі я некага пакрыўдзіў ганаўмысна.

**Аляксей Міхайлавіч.** Супраць Бога я не пярэчу.

**Нікан.** Вялікі гасудар, ці ж не я -- асноўная апора царская. Ці ж не мне давер вашай вялікасці быў, як нікому іншаму?!

**Аляксей Міхайлавіч.** Не выхваляйся гэтым, патрыярх! Мы, Раманавы, цябе з мардвы, з халопаў узвысілі, Мікіта Мінаў... За адвагу ваю і дзелавітасць я ўраўняў цябе з сабою, а ты не толькі царом сябе ўявіў, а на галаву цару сеў. Яшчэ крыху і на пасад мой узлезеш, да посаха свайго ў другую руку дзяржаву маю возьмеш?! *(Ківае на дзяржаву):* І народ за год паспеў раскалоць на сваіх і "раскольнікаў"! У час вайны раскалоў! Дык хто ж у нас галоўны раскольнік?! Мо таму і чума раптам на Маскву прыйшла?.. *(Спакайней.)* І рэформу сваю выкарыстоўваеш, каб вывесці царкву з-пад майго апекавання царскага. Ці не твае словы: "Сяшчэнства вышэй царства?! Уладу патрыяршую супраць улады царскай ставіш!

**Нікан** *(умольна).* Дазволь жа сказаць мне, вялікі гасудар...

**Аляксей Міхайлавіч** *(ціха, але унушальна).* Не дазволю!.. А сам гаварыць з табой буду пра боскае паходжанне толькі царскай улады, а не пра тое, што "сяшчэннасць вышэй царства". І ты гэта запомні, Мікіта Мінаў!

**Нікан.** Пры недаверы такім...

**Аляксей Міхайлавіч.** Не перапыняй цара! Бо самае галоўнае скажу: ад гэтага часу пры мне і пад маёю царскай рукою будзе дзейнічаць Прыказ таемных спраў. Ён пад маім наглядам і будзе кіраваць найважнейшымі справамі дзяржаўнымі і вайсковымі.

**Нікан** *(цвёрда, з годнасцю).* Пры недаверы такім і абразе найвышэйшага духоўнага сану я пакіну палату вялікага гасудара каб параіцца з Богам перад тым, як я, зняважаны, пакіну патрыяршую кафедру, здыму з сябе патрыяршае аблачэнне і сімвал свайго сану — посах мітрапаліта Пятра. *(Стукае адзін раз посахам у падлогу).* Ні халопства, ні манастыр мяне не палохаюць.

**Аляксей Міхайлавіч.** Гэта пахвальна. Але не раю нават патрыярху пужаць цара. І неразумнаму зразумела, што ў абставінах, у якія трапіла дзяржава у сувязі з няўдачамі у вайне, злажэнне з сябе сану патрыярха выкліча смуту на Русі, якая нікога не паміluе, як і я, між іншым, не памілую патрыярха. Гэта цябе і ратуе. Так што няхай ваша святейшаства спакойна сядзе супраць цара за стол наспешнай бяседы, а цар падзеліцца сваімі "перамогамі" у вайне, у якую мы разам уліплі, не дасягнуўшы поспехаў, на якія разлічвалі. *(Пакідае скіпетр і дзяржаву на пасадзе, а сам садзіцца за стол. Пакланіўшыся, насупраць садзіцца Нікан.)* І казацкі верхавода Хмяльніцкі і ваша святейшаства запэўнівалі мяне, што украінцы і беларусцы праваслаўнай веры з нецярпеннем чакаюць мая вызвольных войскаў. І я паверыў! А насамрэч мітрапаліт Сільвестр Косаў і кіеўскае праваслаўнае святарства, пра што патрыярху вядома, да гэтага часу адмаўляюцца прысягнуць цару і твайго святейшаства не прызнаюць за абаронцу праваслаўнай веры, не кажучы ужо пра чэрнь нявольную. А што да беларусцаў, то яны за малым выключэннем, аказалі майму войску такое супраціўленне, якога яно яшчэ ніколі не сустракала ў Вялікім Княстве. Як гэта разумець?!

**Нікан.** Вялікі гасудар...

**Аляксей Міхайлавіч** *(Не зважае на рэпліку Нікана).* Справакаваныя табой праз святароў лісты беларусцаў да цара і патрыярха, што ў іх нібыта ёсць вялікае жаданне, каб ім ўсім быць пад маёю высокай царскай рукою, правакацыямі і засталіся. Але ж ці не яны, ці не ты з імі стварылі ў цара і ягонага атачэння ўражанне лёгкай перамогі над Вялікім Княствам. *(Перадражнівае.)* Варта толькі вялікаму гасудару ступіць туды нагою, пераконваў мяне мой "собінны" сябар Нікан, як усе праваслаўныя беларусцы з хлебам-соллю сустрэнуць царскае войска і разам з ім будуць біць ляхаў. Маўляў, вось ён той момант, калі можна будзе завяваць не толькі Княства, але падступіцца і да каралеўства Яна Казіміра. Як было ўтрымацца ад такой салодкай спакусы?.. Не утрымаліся... абодва не ўтрымаліся! Але твой грэх, патрыярх, большы за мой! Інакш бы я не зазімаваў на Бярэзіне. А ў якое дзярмо войска маё ўляпалася, дзякуючы тваім парадам, зараз нам ваявода Шарамецццеў давядзе. *(Звоніць у званочак).*

*Уваходзіць Шарамецццеў, нізка кланяецца.*

Далажы нам, ваявода, пра нашы справы ў Вялікім Княстве і без звычайных прыўкрасаў. Яго святейшаства хоча ведаць праўду, нават горкую.

*Шарамецццеў разгортвае паперы, але толькі час ад часу заглядае ў іх, дакладваючы па памяці.*

**Шарамецццеў.** Вялікі гасудар, справы нашы ў Вялікім Княстве няўцешныя, калі не сказаць трагічныя. Пачну хоць з таго, што загад вашай вялікасці на заваёву Барысава, а пасля наступ на Менск, Слуцк, Слонім і Бярэсце ваяводам Бутурліным не выкананы. Упарта ў нашых тылах абараняецца Віцебск, Магілёў, Быхаў. Нават дробныя гарады на захопленай намі тэрыторыі стаяць насмерць. Тыя ж паршывыя Усвяты біліся дзень і ноч беспярэпынна аж восем сутак. Тое ж было пад Суражам, Лужай, Рэзіцай, Горамі. Галоўныя сілы нашы на пачатку вайны, пра што ваша вялікасць і ваша святейшаства ведаюць, на чатыры месяцы завязлі у баях за Смаленск, што скавала каля 40 тысяч нашага войска. Вядома і тое, што горад літаральна ашчэрыўся. Ліцьвіны на галовы нашым са сцен цвержы нават вуллі з пчоламі кідалі, не кажучы пра ўсё іншае, што толькі можна было кінуць ці выліць. Мы згубілі 7 тысяч толькі забітымі ды яшчэ больш 15 тысяч паранеными. Чатыры разы адбівалі нашы наступы абаронцы Гомеля ды і самі рабілі вылазкі. У адным з баёў тут загінуў казацкі палкоўнік Сцяпан Пабадайла. Чачэрск узяўшы, нашы супраціўных мячу аддалі і малых і старых, а залогу, якая вырвалася з аблогі, казакі перанялі каля Быхава і пасеклі на капусту, а дамагліся жорсткасцю адваротнага. Не жах, а гнеў і смеласць у ліцьвінаў узбудзілі. І жыхары старога Быхава заявілі: лепш у дамах сваіх памерці, чым у няволю з волі самім сябе аддаваць. Ды што Быхаў?.. Упартасць ворага ў барацьбе за свае гарады сарвала план хуткай вайны. Не мне вашай вялікасці і вашаму святейшаству расказваць, якія сур'ёзныя страты ў ратніках мы панеслі. Так што працягваць паход глыбокай восенню ды зімою, як ваяводы лічаць, было немагчыма. На захопленых землях сёння змагаецца 40 тысяч нашых вояроў ды 20 тысяч казакаў Хмяльніцкага. Так, я не агаварыўся. Змагаецца днямі і начамі. Паднялася супраць нас не столькі шляхта, колькі мужыкі-беларусцы, як каталіцкай, так і праваслаўнай веры. Нам здрадзілі нават тыя, хто цалаваў крыж Вам, вялікі гасудар, і Вам, ваша святейшаства. Яны рынуліся ў лясы шышамі і, аб'яднаўшыся ў аддзелы, наносяць адчувальныя ўдары па нашых залогах і лагерах, аддзелы самаабаронцаў громяць і паляць вёскі і маёнткі шляхты, якая прысягнула вашай манаршай светласці.

На Мсціслаўшчыне, напрыклад, дзейнічае аддзел шышоў у 3 тысячы сялян на чале са сваім мужыцкім палкоўнікам. На Смаленшчыне ў іх таксама 3 тысячы мужыкоў і 300 драгунаў. Нам здрадзіў і перайшоў на бок Радзівіла з аддзелам у 6 тысяч казакаў нават так званы "беларускі палкоўнік" Паклонскі, якому вялікі гасудар асабіста надаў гэта высокае званне і на якога былі спадзевы, што ён падыме і павядзе беларусцаў на ляхаў.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія:
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеной інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 15. 04. 2002 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 703.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
Кошт у розніцу: 120 руб.